# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі:** **Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 36** **ВЕРАСЕНЬ 1972 — SEPTEMBER** **ГОД. 18**


## АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### СЬВЯЧЭННАГА САБОРУ ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

**Да Усечаснага Сьвятарства і ўсіх Багалюбных Беларускіх Праваслаўных Вернікаў на Чужыне й на Бацькаўшчыне.**

*Ласка Вам і мір ад Бога Айца нашага*
*й Госпада Ісуса Хрыста* (Рымл. 1-7)

УЛЮБЁНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!

З Любові й Ласкі Божай паведамляем Вам, што йдучы на спатканьне Беларускіх Праваслаўных Вернікаў, якіх Божая Праўднасьць расьцярушыла па ўсіх краінах Вольнага Сьвету, што 27, 28 і 29-га травеня сёлета адбыўся Другі Сабор БАПЦарквы на Чужыне, на якім была адноўленая Мітраполія, выбраны Мітрапаліт, Галоўная Царкоўная Рада й Кансысторыя БАПЦарквы.

Пра гэтую гістарычную падзею мы апавяшчаем пабожным нашым Братом і Сёстрам на Чужыне й на Бацькаўшчыне й заклікаем усіх Праваслаўных вернікаў аб'яднацца ў аднэй БАПЦаркве, да чаго кліча нас Боскі Настаўнік Госпад наш Ісус Хрыстос.

Аднаўлена Мітраполія, як прадаўжэньне Літоўскае Мітраполіі ў Наваградку, якая была зацьверджаная Ўсяленскім Канстантынапальскім Патрыярхам у 1291 годзе.

Аднаўлена на аснове пастановы Епіскапаў сьвятарства й вернікаў на Саборы ў Наваградку ў 1415 годзе, на якім быў абраны на Мітрапаліта Рыгоры Цамбляк.

Аднаўлена на аснове гістарычнага Сабору ў сталіцы Беларусі Менску, які быў скліканы Мітрапалітам Мелхісэдэкам у 1922 годзе, на якім пад гукі магутных званоў Катэдральнага Сабору была абвешчана БАПЦарква самастойнаю й незалежнаю ад чужой улады

Маскоўскага Патрыярха; пацьверджана незалежнасьць БАПЦарквы на Ўсебеларускім Саборы ў Менску ў 1942 годзе й на Саборы ў Канстанцы ў 1948 годзе.

Гэтым актам зьдзейсьнена бесьперапыннае імкненьне Беларускае Праваслаўнае Царквы да Яе самастойнасьці.

Сам Хрыстос Бог і Спас наш асьвяціў нацыянальныя праявы царкоўнага жыцьця, пасылаючы вучняў сваіх на вяшчаньне Праўды Божае, спаслаўшы ім Духа Сьвятога: „і зьявіліся ім адасобленыя языкі, як бы агнявыя, і палі па адным на кажнага зь іх. І прanятыя ўсе ДухамСьвятым пачалі гаварыць рознымі мовамі, так як дух Сьвяты падказваў ім прамаўляць" (Дз. Сьв. Ап.; 2, 3-4).

Усе мы мусім дзякаваць за ласку Госпада нашага Ісуса Хрыста, што дапамог нам аднавіць Мітраполію нашае Сьвятое Царквы й разбудаваць яе ўва ўсіх краінах Вольнага Сьвету, дбаць пра далейшы Яе развой. Як будзе моцнаю БАПЦарква, то будзе моцнаю й беларуская нацыянальнасьць.

Само жыцьцё, а асабліва нішчэньне Царквы на Родных Землях, накладае на нас абавязак падвойнае ахвярнасьці, працы й высілкаў. Мы мусім ня толькі ўтрымаць сучасны стан нашае Царквы ў сучасных нашых краінах, але ўзмоцніць яго й замацаваць, а перадусім удасканаліць нашае рэлігійнае жыцьцё. Як сталь у вагні цьвярдзее, так і наша вера па тых дазнаньнях, што перажывае наша Царква на Бацькаўшчыне, мусіць узмацоўвацца кажны дзень. І мы мусім верыць, што як пасьля ночы прыходзіць дзень, так і пасьля мукаў нашай Царквы на родных землях мусіць прыйсьці Яе адраджэньне й патрэба для нашае Царквы жанцоў, бо шмат жніва.

Таму, каб гэтае жніва было плённае, заклікаем усіх гуртавацца ў сваёй Сьвятой Саборнай Апостальскай БАПЦаркве, як у Царкве Хрыстовай, роўнай для ўсіх.

Адзінымі вуснамі й адзіным сэрцам прасем Міласэрнага Госпада, каб Ён паслаў нашай Царкве сілу й ласку Сьвятога Духа, узмоцніў Яе, каб Яна захавала самабытнасьць, незалежнасьць, кананічны лад, згоду ў сабе й малітвеную лучнасьць з усімі іншымі праваслаўнымі Цэрквамі. Гэта й будзе той шлях да еднасьці паміж намі, праз што „пазнаеце праўду, і праўда зробіць вас вольнымі" (Ін. 8, 32); і праўда вызваліць нас ад нязгодаў, падзелу й прывядзе да згоды, супакою й любові ў Хрысьце Ісусе Спасе нашым.

Супакой, Любоў і Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца й Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі. АМІН.

Лета Божага 1972 месяца жнівеня.

**✠ Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй**
**✠ Пакорны ў Богу Епіскап Мікалай**



# САБОР БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

У днёх 27-29 травеня 1972 году ў Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, штату Нью Джэрсі ў ЗША, адбыўся 2-гі Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Сабор распачаўся Малебнам а гадз. 9-ай раніцы 27-га травеня. Малебен служыў Высокапраасьвячэнны Архіепіскап Андрэй у суслужэньні Епіскапа Мікалая й прысутнага на Саборы сьвятарства.

А гадзіне 10-ай пачаліся нарады Сабору. Адчыніў Сабор і кіраваў яго нарадамі Архіепіскап Андрэй. Вітаючы сьвятарства й дэлегатаў ад парафіяў, Уладыка Андрэй запрасіў ушанаваць памяць адышоўшых на вечны супачынак удзельнікаў І-га Сабору Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Канстанцы. Прысутныя прапялі „Вечная памяць". Пасьля гэтага нарады вяліся паводля прынятага парадку дня. У прэзыдыюм Сабору ўвайшлі: Архіепіскап Андрэй — Старшыня, Епіскап Мікалай — Заступнік, ад сьвятарства Мітр. Прат. Др. Аўген Смаршчок, Прат. Васіль Кендыш; ад вернікаў — Мікалай Гарошка й Янка Бруцкі.

Пасьля выбару сакратароў і сяброў Камісіяў, Архіепіскап Андрэй зрабіў агульны агляд становішча Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У сваёй прамове Ўладыка падкрэсьліў, што гэты Сабор адбываецца без сьв. пам. Архіепіскапаў Сяргея й Васіля, без айцоў Хведара Данілюка, Сьцяпана й Віктара Войтанкаў, вернікаў Янкі Чыжыка й ген. Мікалая Дзямідава — бяз тых, якія былі ініцыятарамі й арганізатарамі І-га Канстанцкага Сабору, дзякуючы якому аформілася й дзейна разьвіваецца нашая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на чужыне. Уладыка Андрэй прыгадаў гістарычную мінуласьць нашае незалежнае Праваслаўнае Мітраполіі ў пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага й ейныя Саборы, падкрэсьліваючы тое, што нашая Царква не парушала кананічных правілаў пры сваім адраджэньні, і яна ўсьцяж прызнае над сабою аўтарытэт Пасаду Канстантынопальскага Патрыярха. Уладыка выказаў сум і глыбокае занепакаеньне станам Праваслаўнае Царквы на Беларусі, дзе ўсе праявы рэлігійнага жыцьця прыгнятаюцца, а бязбожная ўлада імкнецца да поўнае яе ліквідацыі. Не пакідаюць у супакоі й нашую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву на чужыне. З непакоем угледаецца нашая Царква на дзейнасьць Маскоўскае Патрыярхіі ў вольным сьвеце і ў арганізацыі „Сусьветнага Задзіночаньня Хрысьціянскіх Цэркваў", дзе Масква стараецца падарваць аўтарытэт Канстантынопальскага Патрыярха й іншых Праваслаўных Цэркваў. Насьвятлі́ўшы цяжкое палажэньне нашае Царквы, Уладыка заклікаў прыкласьці больш высілкаў і ахвярнае працы да разбудовы праз павялічэньне колькасьці парафіяў, як таксама колькаснае ўзмацненьне стану сьвятарства.

Пасьля абедзеннага перапынку Сабор пачаў разглядаць прапанаваны Статутовай Камісіяй праект Статуту Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Старшыня Камісіі Ўладыка Мікалай падаў да ведама Сабору, што Камісія рыхтавала праект статуту доўгі час і брала пад увагу статуты 8-мі Праваслаўных Цэркваў, таксама й Статут Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, прыняты на Саборы ў Менску ў 1942 годзе. Чытаўся кажны пункт Статуту, і Сабор дыскутаваў і рабіў свае заўвагі або зьмены. Паводля прынятага Статуту, разьдзелу Б, Першы Герарх

носіць тытул Мітрапаліта Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Гэтага-ж дня, а гадзіне 5-ай папаўдні, адбыліся выбары Мітрапаліта. На прапанову Ўладыкі Мікалая аднагалосна быў выбраны Высокапраасьвячэнны Архіепіскап Андрэй. Сабор прапяяў „аксіос, аксіос, аксіос" і „многія леты" выбранаму Мітрапаліту.

А гадзіне 6:30 Мітрафорны Пратаерэй Аўген Смаршчок адслужыў Вячэрню.

У нядзелю 28 травеня, у дзень Сьвятое Тройцы, адбылася ўрачыстая Сьв. Літургія, у провадзе Мітрапаліта Андрэя, пры суслужэньні Епіскапа Мікалая й Саборнага сьвятарства. Царква напоўнілася парафіянамі й шматлікімі вернікамі, якія прыбылі на гэтую гістарычную ўрачыстасьць. А гадзіне 3:30 прыбыў Уладыка Мітрапаліт. Яго вітаў з хлебам і сольлю Старшыня Парафіяльнае Рады Мікалай Войтанка, а дзяўчаткі пасыпалі дарогу кветкамі. У Царкве з крыжам вітаў Уладыку Мітрапаліта кіраўнік Парафіі Пратаерэй Васіль Кендыш. Вітаючы Ўладыку Мітрапаліта, ён выказаў вялікую радасьць і гонар Парафіі з таго, што яму Бог судзіў вітаць свайго першага Мітрапаліта ў вольным сьвеце.

Падчас Сьв. Літургіі Ўладыка Мітрапаліт узьвёў Мітрафорнага Пратаерэя Аўгена Смаршчка ў сан Пратапрасьвіцера, а. Васіля Кендыша ў сан Пратаерэя; а. Карп Стар, кіраўнік Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, быў узнагароджаны скуф'ёю. Пасьля заамвоннае малітвы адбыўся крыжны ход вакол Царквы, бо ў гэты дзень адзначалася таксама й парафіяльнае Сьвята Жыровіцкае Божае Маці.

Па заканчэньні Божае Службы у перапоўненай парафіяльнай залі адбыўся мнагалюдны абед-банкет. Падчас абеду віталі Ўладыку Мітрапаліта й Сабор: Прат. Васіль Кендыш, ад Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку; Пратапрасьвіцер Др. Аўген Смаршчок, ад Парафіі й Беларусаў у Бэльгіі; а. Ян Пякарскі, ад сьвятарства й вернікаў у Ангельшчыне. Ад вернікаў віталі: Мікалай Гарошка, ад Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне; Мікалай Ганько, ад Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта (Канада); Др. Уладзімір Бакуновіч, ад Парафіі Сьвятога Духа ў Дэтройце; Мікола Гумен, ад Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе; Др. Я. Запруднік, ад Моладзі; Др. Ян Станкевіч, ад Крывіцкага Навуковага Таварыства; Васіль Стома, ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, штату Нью Джэрсі.

Уладыка Мітрапаліт у сваім слове падзякаваў за вітаньні й падкрэсьліў вялікую гістарычную вагу адбыванага Сабору БАПЦарквы ды заклікаў да натужаньня высілкаў у далейшай разбудове нашае Царквы ды большага дзейнага ўдзелу ўва ўсіх галінах нашага царкоўна-грамадзкага жыцьця.

Дня 29-га травеня нарады Сабору пачаліся а гадзіне 9-ай раніцы. Быў закончаны перагляд і прыняты Статут БАПЦарквы, потым праведзены выбары. Выбрана Галоўная Рада Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў наступным складзе:

Высокапраасьвячэнны Мітрапаліт Андрэй — Старшыня Рады. Праасьвячэнны Епіскап Мікалай — Заступнік Старшыні.

Сябры Рады ад сьвятарства: Пратапрасьвіцер Аўген Смаршчок, Прат. Александар Кулакоўскі, Прат. Ян Абабурка, Прат. Васіль Кендыш, а. Карп Стар, а. Васіль Чычэліс, а. Ян Пякарскі.

(Айцы — Прат. Александар Кулакоўскі, ад Парафіі Сьв. Антона,





*Высокапраасьвячэньнейшы Андрэй,*
*Мітрапаліт Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

Яна й Еўстафа ў Мэльбурне, і а. ВасільЧычэліс, ад Парафіі Сьв. Апп. Пятра й Паўла ў Адэляйдзе, — як прадстаўнікі ад Аўстраліі).

Сябры Рады ад вернікаў: Пётра Манькоўскі, Міхась Тулейка, Васіль Русак, Мікалай Ганько, Аўген Лысюк, Уладзімір Бакуновіч, Янка Бруцкі.

У Рэвізійную Камісію былі выбраны: Мікалай Гарошка, Расьціслаў Войтанка й Мікалай Войтанка.

Рада Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы выбрала Кансысторыю: Высокапраасьвячэнны Мітрапаліт Андрэй — Старшыня,

Прат. Васіль Кендыш — Заступнік і Сакратар, сябры — а. Карп Стар, Пётра Манькоўскі, Васіль Русак, Аўген Лысюк.

Для Беларусаў у вольным сьвеце й для нашае Царквы праведзены Сабор мае вялікае значэньне. Прыняты Статут унармуе й уднастайніць жыцьцё парафіяў, раскіданых па ўсіх кантынэнтах, бо да гэтага часу нашы парафіі кіраваліся сваімі часовымі правіламі. Устаноўленае кіравецтва Мітраполіі, з Радай БАПЦ й выканаўчым ворганам-Кансысторыяй, паспрыяе цясьнейшай нутраной сувязі царкоўнай, што будзе ўплываць на ўзмацненьне Царквы й на развой царкоўнага жыцьця.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ САБОРУ

1. Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы з сумам сьцьвярджае трагічнае палажэньне Праваслаўнае Царквы на землях Беларусі, якое праяўляецца ў нішчэньні й зачыняньні цэркваў, у зьдзеку з сьвятарства й вернікаў і ў пазбаўляньні іх магчымасьці выконваньня рэлігійнага служэньня й абрадаў. Факты, што Герархія Праваслаўнае Царквы на Беларусі зьведзена да аднаго епіскапа чужой Маскоўскай Патрыярхіі, што усе духоўныя сэмінарыі пазачыняныя й няма вышэйшае духоўнае акадэміі, што ніякая рэлігійная літаратура не выдаецца, сьведчаць пра наяўную жорсткую палітыку ліквідацыі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі. Сабор з прызнаньнем сьцьвярджае вернасьць беларускага народу сваей Царкве й ягоны гераічны супраціў бязбожнай уладзе ў змаганьні за свае рэлігійныя правы. Сабор выказвае катэгарычны пратэст і асуджэньне палітыкі, накіраванай на зьнішчэньне Беларускай Праваслаўнай Царквы.

2. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква кіруецца агульнымі канонамі Праваслаўнае Царквы, захоўвае чысьціню Праваслаўнай Веры, трымае лучнасьць зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі й прызнае аўтарытэт Пасаду Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярха.

У духовай лучнасьці з гістарычнай Праваслаўнаю Царквою на Бацькаўшчыне Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на чужыне перахоўвае традыцыі беларускага народу. Прадоўжваючы спадчынную ідэю самастойнасьці Беларускае Праваслаўнае Царквы, Сабор выбраў Мітрапаліта на пасад Першага Герарха.

3. Сабор пастанаўляе далей разбудоўваць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, арганізаваць новыя парафіі, ды імкнуцца аб'яднаць беларускія парафіі, якія знаходзяцца ў другіх юрысдыкцыях; рупіцца пра павялічэньне стану сьвятарства й пра навучаньне дзяцей і моладзі ў парафіяльных школах.

4. Сабор сьцьвярджае патрэбу далейшай працы над беларусізацыяй Багаслужбаў і іх музычным афармленьнем. Ужываньне ў жыцьці Царквы моваў краінаў прабываньня нашых вернікаў залежыць ад мясцовых умоваў.

У абліччы цяжкое нядолі нашае Царквы на Бацькаўшчыне, Сабор узносіць падзяку Найвышэйшаму Стварыцелю за йснаваньне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце, дзе яна змагла аднавіцца й дзеяць на славу Богу й дзеля дабра Беларускага Народу.

Лета Божага 1972, дня 29 травеня
Гайлэнд Парк, Нью Джэрсі, ЗША.







# МІТРАПАЛІТ МЕЛХІСЭДЭК — ПАЕЎСКІ —

### АДНАВІЦЕЛЬ БЕЛАРУСКАЕ МІТРАПОЛІІ
### (1876 - 1931)



З сабраных сьціплых вестак пра жыцьцё й дзейнасьць Мітрапаліта Мелхісэдэка даведваемся, што ён памёр (быў замучаны) 17-га травеня 1931 году, пражыўшы 55 гадоў. Таму, праўдападобна, радзіўся ён у 1876 годзе. Гэта было за часоў імпэратара Аляксандра III, пасьля вызваленьня сялянаў ад прыгону, пад якім напэўна былі й бацькі Мітрапаліта. У запісах пададзена, што будучы Мітрапаліт радзіўся ў вёсцы Шчытнікі, Берасьцейскага павету, недалёка ад места Кобрыня. Пры хрышчэньні яму было дадзена імя Міхал. Пазьней бацькі Мітрапаліта перасяліліся ў Кобрынь. Бацька яго Лявон (Леў) атрымаў становішча псаломшчыка ў манастырскай царкве ў Кобрыне, якая была пабудаваная яшчэ за часоў удзельных князёў Кобрынскага княства. Тут бацька так удасканаліўся

ў царкоўных абрадах, Багаслужбах і ў царкоўным сьпеве, што хутка заняў становішча рэгента хору, а неўзабаве быў рукапаложаны ў сан iерэя для тае-ж манастырскае царквы.

Будучы Мітрапаліт пачаткавую асьвету атрымаў у школе пры манастыры. З дзяцінства адзначаўся вялікаю пабожнасьцю, таму бацька вырашыў пасляць яго ў Віленскую Духоўную Сэмінарыю, а пасьля заканчэньня яе — ў Пецярбурскую Духоўную Акадэмію. Пасьля заканчэньня Акадэміі быў пастрыжаны ў манаства, прыняўшы імя Мелхісэдэка, і быў прызначаны на Ігумена Бялыніцкага манастыра сьв. Мікалая, дзе ён ужо раней належаў да манастырскага брацтва.

Калі й ад каго прыняў хіратонію на Епіскапа, яшчэ няведама. Успамінаецца толькі, што напачатку быў прызначаны на катэдру Таўрычаскага Епіскапа (1914-1918 гг.) з тытулам Епіскапа Астраханскага; потым быў нейкі час Ладаска-Пецярбурскім вікарным Епіскапам, у Царскім Сяле быў апякуном прытулку сіратаў, для якіх царыца вызначыла кватэру ў сваім палацы.

У 1917 годзе браў удзел у Саборы ў Маскве й, магчыма, тады атрымаў згоду ад Патрыярха Ціхана, каб яго скіраваў на Беларусь, для працы сярод свайго Беларускага Народу. Жаданьні ягоныя зьдзейсьніліся, і ў 1919 годзе ён быў прызначаны на вікарнага Епіскапа пры Менскім Архіепіскапе Юрыю Ярашэвічу, а пасьля скіраваньня Арх. Ярашэвіча ў Варшаву, Патрыярх Ціхан загадаў Епіскапу Мелхісэдэку абняць Менскае Архіепіскапства.

Гэта быў ваенны час і цяжкія гады ў Менску. У 1921 годзе, на аснове міру ў Рызе, Беларусь была падзелена, надыйшоў нейкі супакой, бо ваенныя дзеяньні спыніліся, але лютавала крывавая рэвалюцыя. Бальшавіцкая ўлада павяла варожую акцыю супраць Царквы, і парадку ў рэлігійным жыцьці ня было.

У 1920 годзе Сьвячэнны Сынод Расейскае Царквы з удзелам Патрыярха Ціхана вынес пастанову: „Даць аўтаномію, а навет і аўтакефалію для паасобных Епархіяльных Епіскапаў, каб праз гэта ўтрымаць парадак у рэлігійным жыцьці". А калі 18 чырвеня 1922 году Патрыярх Ціхан быў арыштаваны бальшавікамі, дык ягоны намесьнік пасьпеў яшчэ разаслаць пасланьне, у якім пісалася: „Архіпастырам: Пазбаўленыя часова вышэйшага кіравецтва, вы кіруйце цяпер самі Епархіямі самастойна, згодна Сьв. Пісьма й Сьв. Канонаў, аж да ўстанаўленьня Вышэйшае Царкоўнае Ўлады. Канчаткова, выдавайце распараджэньні самі, на якія раней прасілі дазволу ў Сьв. Сыноду".

Згодна з гэтымі пастановамі і склікаў Архіепіскап Мелхісэдэк 23 ліпеня 1922 году, у Катэдральным Саборы сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Менску, Епархіяльны Сабор Сьвятарства й вернікаў, каб унармаваць рэлігійнае жыцьцё на прасторы створанай у тым часе бальшавікамі БССР. На Саборы было пастаноўлена: 1) Абвесьціць Мітраполію Беларускае Праваслаўнае Царквы, 2) Мітрапалітам выбраць Арх. Мелхісэдэка, 3) стварыць 4 Епархіі: Менскую, Бабруйскую, Мазырскую й Слуцкую, 4) у дапамогу Мелхісэдэку выбраць тры кандыдаты ў Епіскапы: у Бабруйск — Філарэта Роменскага; у Слуцак — Мікалая Шэмацілу; у Мазыр — Івана Пашына; Менскаю Епархіяй кіраваў сам Мітрапаліт Мелхісэдэк. Быў прыняты часовы статут для Менскае Мітраполіі. Час заканчэньня Сабору — 10-га жнівеня. Хіратонія ўсіх трох кандыдатаў у Епіскапы была праведзена. Напоўна было выдана й пасланьне да вернікаў, але



пакуль што зьмест яго нам няведамы. Маюцца пэўныя пераказы, што апрача Мелхісэдэка на Саборы прысутнічала яшчэ два Епіскапы. І быццам у адыйшоўшага ад БАПЦаркви цяперашняга Архіепіскапа Апанаса перахоўваецца пратакол гэтага Сабору.

Далейшыя весткі пра жыцьцё Мітрапаліта Мелхісэдэка вельмі сумныя. Бальшавікі, закатаваўшы Патрыярха Ціхана й разбурыўшы царкоўнае жыцьцё ў цэнтральнай Расеі, распачалі наступ на рэлігійнае жыцьцё ў іншых рэспубліках. Гэтак, у сьнежні 1924 году Мітрапаліт Мелхісэдэк быў выкліканы праз Мітрапаліта Сяргея ў Маскву, там быў арыштаваны й сасланы у Сібір у Марынскія лягеры на цяжкую працу. Пазьней, на загад Мітр. Сяргея, быў перавезены ў Краснаярск, а ў канцы 1930 году быў зноў выкліканы ў Маскву, дзе ў часе аблачэньня да Багаслужбы памёр. Дзе яго пахавалі, няведама.

Падобнае сталася й з іншымі ўдзельнікамі Сабору й хіратанізаванымі Епіскапамі. Згодна пэўных вестак, Епіскап Іван Мазырскі памёр у турме ў 1927 годзе; Епіскап Мікалай Слуцкі памёр у турме ў 1931 годзе; Епіскап Філярэт Бабруйскі памёр у турме ў 1939 годзе. Загінулі ў турмах і ўсе дзейныя сьвятары, як: С. Кульчыцкі, Д. Паўскі, М. Навіцкі, А. Кіркевіч, А. Пігулеўскі й шмат іншых. Вечная памяць усім змагаром за Праваслаўную Веру й свабоду для Беларусі.

## З УКРАІНСКАЕ ЦАРКОЎНАЕ ПРЭСЫ

Пад тытулам „Мітрапаліт Андрэй Першагерарх Беларускае Царквы" часапіс „Віснік" падае наступнае:

„Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на сваім Саборы, што адбыўся ў гэтым годзе, выбрала сваім Першагерархам Уладыку Андрэя з Клiўленду, ЗША. Сабор агаласіў Мітраполію Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і надаў Уладыку Андрэю сан Мітрапаліта.

Як Першагерарх гэтае Царквы, Мітрапаліт Андрэй ёсьць спадкаемцам Архіепіскапа Сяргея (Охотэнка), які памёр (у Аўстраліі) на 82-ім годзе жыцьця. Архіеп. Сяргей належаў да ўкраінскага праваслаўнага Епіскапату, які ачольваў Мітрапаліт Палікарп (Сікорскі). Мітрапаліт Палікарп даў сваю згоду Архіеп. Сяргею, каб ён ачоліў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Памёр і Ўладыка Васіль, што яго высьвяцілі на епіскапа Ўладыкі Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне, першым Першагерархам якое быў Мітрапаліт Палікарп.

У Канадзе Герархам успомненае Беларускае Царквы ёсьць Уладыка Мікалай (Мацукевіч) з катэдраю ў Тароньце. (Ён скончыў Багаслоўскі факультэт Калегіі Сьв. Андрэя ў Вініпэгу.

Пакойнага Архіепіскапа Сяргея (Охотэнка) хаваў грэцкі Ўладыка Спірыдон, якога высьвяцілі на епіскапа ўкраінскія архіепіскапы Генадзі (Шыпркевіч) і Грыгоры — цяперашні Мітрапаліт Першагерарх сабornаправнае Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

(„Віснік", Віньніпэг, 1-га верасьня 1972)

## ПАДЗЯКА

**Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы складае шчырую падзяку Сп. Александру Асіпчыку за грашовую дапамогу ў выданьні гэтага нумару часапісу „Голас Царквы".**

# СЬВ. ПАМЯЦІ АЙЦЕЦ Д-Р. ВІКТАР ВОЙТАНКА — ВАСІЛЕУСКІ

Дня 25-га красавіка сёлета нечакана й раптоўна адыйшоў у вечнасьць сьв. памяці Айцец Д-р Віктар Войтанка. Пахаваны на Беларускіх Могілках у Іст Брансвіку 29-га красавіка 1972 году. Абрад паховінаў і заўпакойныя службы выканаў Архіепіскап Андрэй у асысьце кіраўніка парафіі Прат. а. Васіля Кендыша, Прат. а. Міраслава Глінскага й а. Карпа Стара з Нью Ёрку ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці, у Гайлэнд Парку, штату Нью Джэрсі. Як на Паніхідзе, так і на Заўпакойнай Літургіі пры адпяваньні, царква была перапоўнена маленьнікамі, якія прышлі памаліцца й разьвітацца з нябожчыкам: адраджэнцам БАПЦарквы, добрым доктарам, які шматлікім аказваў лекарскую помач і даваў парады, былым сябрам Унівэрсытэту Сьцяпана Баторага ў Вільні, сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу, сябрам Беларускіх грамадзкіх і навуковых арганізацыяў у Амэрыцы й нястомным змагаром за ідэал незалежнасьці Беларусі.

Нарадзіўся Віктар Войтанка 6-га лістапада 1912 году ў хвальварку Мачульня, Навагрудзкага павету ад бацькоў Пратаерэя Сьцяпана Войтанкі й матушкі Філямэны.

Пачатковую асьвету атрымаў у мястэчку Дварэц, сярэднюю — у Баранавічах у гімназіі ймя Тадэвуша Рэйтана. У 1931 г. склаў уступны экзамен на мэдычны факультэт Віленскага Ўнівэрсытэту. Стаўшыся студэнтам, адразу далучыўся да арганізацыі Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні й прыняў удзел у беларускай нацыянальна-адраджэнскай дзейнасьці. Па сканчэньні ўнівэрсытэту ўступіў у сужэнства з Марыяй Хіневіч, студэнткаю філялёгіі, у 1937 годзе. У тым-жа годзе мусіў ісьці адбываць вайсковую павіннасьць. Вярнуўшыся з вайсковае службы, у 1939 годзе падаўся ў Вільню трымаць экзамен на дыплём доктара мэдыцыны, што й асягнуў з посьпехам. У 1939 годзе мабілізаваны быў у польскае войска на фронтавага лекара. З фронту вярнуўся шчасьліва й жыў некаторы час у Баранавічах.

У часе нямецкай акупацыі пачынае арганізоўваць беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Баранавічах. Добра арыентуючыся ў абставінах, якія заіснавалі з прыходам Немцаў на Беларусь, маючы давер ад беларускіх дзеячоў, абняў становішча старшыні горада Баранавіч. На кіраўнічым становішчы робіць захады да звальненьня ваеннапалонных Беларусаў, якія знаходзіліся ў лягерах у ваколіцах Баранавічаў. Арганізуе мэдычную школу, каб праз гэта ўстрымаць беларускую моладзь ад вывазу ў Нямеччыну, і робіць захады арганізаваць Беларускую Самапомач.

У 1943 годзе нямецкія ўлады перавялі яго ў Слонім на становішча акругоавага лекара. Тут ён хутка азнаёміўся з беларускім грамадзтвам, і меў нагоду ўплываць на мясцовы беларускі нацыянальны актыў, базуючы сваю дзейнасьць на чыста нацыянальных аспэктах. Свае нацыянальныя інтарэсы меў перадусім і іх трымаўся пры розных абставінах і пры ўсякай дзейнасьці. Калі рабіў, як інспэкцыйны лекар, перагляд пакліканых у Беларускую Краёвую Абарону, дык сустракаў пакліканага пытаньнем — „Ты Беларус?" — і дадаваў: „Будзь верным сынам свае Бацькаўшчыны".

Але час ягонае працы ў Слоніме быў кароткі. Пад ціскам бальшавіцкае арміі Немцы пачалі адступаць. І ўсе ўрадаўцы з Слоніма, а ў тым





*а. д-р Віктар Войтанка*

ліку й д-р Войтанка, мусіў выехаць у Нямеччыну, аж у Сальгаў.

Асаблівую актыўнасьць доктар Войтанка выявіў у справе аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Яшчэ быўшы ў Баранавічах, па нарадзе з беларускімі дзеячамі, ён зьвярнуўся да Мітрапаліта Панцелеймана ў Жыровіцах, каб узначаліў БАПЦаркву й правёў хіратонію архімандрытаў Філафея й Апанаса ў Епіскапы. Мітрапаліт Панцелейман на гэта пагадзіўся й за згодаю нямецкіх уладаў пераехаў у Менск, дзе быў скліканы Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў 1942 годзе. На Саборы аўтакефалія была прынятая, але ажыцьцяўленьне яе было перапынена наступам савецкае арміі. Епіскапы змушаныя былі выехаць у Нямеччыну.

Др. Войтанка й там прыкладаў максімум высілкаў, каб беларускія

 

Епіскапы не адыйходзілі да Расейскай Зарубежнай Царквы, а далей прадаўжалі дзейнасьць БАПЦарквы й абслугоўвалі беларускіх вернікаў. Але, ня гледзячы на колькіразовыя звароты, асабістыя й пісьмовыя, да Мітрапаліта й Епіскапаў, яны зракліся БАПЦарквы й падаліся да юрысдыкцыі Расейскае Зарубежнае Царквы.

Канчальна пераканаўшыся ў зрадзе былых „беларускіх" Епіскапаў, д-р Войтанка й прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў зьвярнуліся з просьбай дапамогі да Сыноду Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Мітрапаліт Палікарп просьбу Беларусаў задаволіў і адпусьціў Уладыку Сяргея для БАПЦарквы. Вынікам гэтага было скліканьне 5-га чэрвеня 1948 году ў Канстанцы Саборыку, на якім і адбылося аднаўленьне БАПЦарквы.

Бальшыня беларускае эміграцыі стала асядляцца ў Злучаных Штатах Амэрыкі Паўночнай, куды на сталае жыцьцё выехаў і д-р Віктар Войтанка. У ліку колькіх парафіяў БАПЦарквы была заснаваная й Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, кіраўніком якой стаўся бацька Віктара Сьцяпан Войтанка. Заўсёды дбаючы пра разьвой БАПЦарквы ды аказваючы паважную матар'яльную ўспамогу, д-р Войтанка сам стаў схіляцца да прыняцьця сьвятарскага сану. Па сьмерці свайго бацькі, Мітрафорнага Пратаерэя Сьцяпана, адчуваючы нястачу нацыянальнасьведамага сьвятарства, ён цьвёрда пастанавіў прыняць пасьвячэньне. І 15-га чэрвеня 1969 году Архіепіскап Васіль рукапалажыў яго ў сан йерэя.

На працягу свае кароткае трохгадовае сьвятарскае дзейнасьці а. Віктар выказаўся адданай ахвярнай працай на рэлігійнай ніве, як і значнай матарыяльнай дапамогаю для БАПЦарквы. Дзеяньні ягоныя сягалі далёка і ў прышласьць.

Цяжка перажываў а. Віктар існуючы падзел між Беларусамі — як рэлігійны, так і грамадзкі. Дзеля гэтага ён няраз зварачаўся да прадстаўнікоў абодвух угрупаваньняў, каб дайсьці да пагадненьня й зьліквідаваць шкодны падзел.

Ён шукаў паразуменьня і ў грамадзка-палітычнай дзейнасьці. Спяшаўся з дапамогай сьвецкім арганізацыям, як напрыклад, з укладам на селішча Менск, маючы надзею, што гэты асяродак будзе першым кутом, зь якога распачнецца запраўднае аб'яднаньне Беларусаў.

Шмат было ў яго праектаў і новых плянаў у жыцьці. І дзівіліся ўсе: адкуль у яго столькі часу, каб праводзіць у жыцьцё ўсе задумы, штодзённа вясьці перапіску з рознымі асобамі, працуючы адначасна, як доктар у гошпіталі й вядучы прыватную лекарскую практыку?

Няхай ягоная няўтомная дзейнасьць будзе добрым прыкладам для іншых. Вечная яму памяць!

Сьвятой Памяці Айцец Доктар Віктар Войтанка — Васілеўскі працаваў у шпіталі Бэт Ізраэль у Ньюарку, штату Нью Джэрсі.

Па сьмерці імя Ягонае ўмешчана на мэмарыяльнай табліцы шпіталя, як аднаго з заслужаных дактароў, аб чым была паведамлена ўдава матушка Марыя пісьмом наступнага зьместу:

Dear Mrs. Wasilewski:
Please be advised that the plaque which has been established in memory of Dr. Wasilewski by the Nursing Staff of Beth Israel Hospital, has been mounted on the General Memorial Board.

Yours truly, *David Wachs* Administrator





# ЯГО СЬВЯЦЕЙШАСЬЦЬ УСЯЛЕНСКІ ПАТРЫЯРХ АТЭНАГОРАС I.

У Істамбуле (Канстантынопалі) дня 7-га ліпеня сёлета на 87-ым годзе свайго жыцьця ўпакоіўся ў Богу Яго Сьвяцейшасьць Усяленскі Патрыярх Атэнагорас I.

Сьвецкае імя пакойнага Патрыярха было Арыстокліс Сьпіру. Нарадзіўся 25-га сакавіка 1886 году ў сяле Вассілікон, у Грэцкай, падлеглай тады Турэччыне, правінцыі Эпір, у сям'і лекара. У 1910 годзе скончыў духоўную сэмінарыю й быў рукапаложаны ў дыякана. Пасьля аднаго году службы, ужо як Архідыякан, быў супэрінтэндэнтам школаў у манастыры. У 1919-22 гадох — ён быў генэральным сакратаром Сыноду Грэцкае (Эладзкае) Царквы. У 1922-м годзе хіратанізаваны ў Епіскапа й прызначаны на кіраўнічае становішча Епархіі Корфу й Пахой. У 1930-м годзе быў перамешчаны на Архіепіскапскую Катэдру Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі, як Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха. У ЗША заснаваў Духоўную Грэцкую Сэмінарыю й Акадэмію Сьв. Васіля.

Дня 1-га лістапада 1948 году Сьвячэнны Сынод Усяленскае Патрыярхіі ў Канстантынопалі выбраў яго на Патрыярха. На патрыяршую Інтранізацыю, 27-га студзеня 1949 году, прыляцеў да Канстантынопалю самалётам тагачаснага прэзыдэнта Трумана, зь якім меў прыязныя дачыненьні.

31-га студзеня 1951 году — у 1500 гадавіну Халкедонскага Ўсяленскага Сабору (451) — выдаў да ўсіх Аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў свае славутае Патрыяршае пасланьне. Быў шчырым прыхільнікам ідэі аб'яднаньня ўсіх хрысьціянскіх цэркваў.

Уважаючы, што на працягу 12-ці стагодзьдзяў (ад 787 г.), калі адбыўся сёмы Усяленскі Сабор, не адбывалася больш Сабораў Усяленскае Праваслаўнае Царквы ні нарадаў Прадстаўнікоў Пamесных Праваслаўных Цэркваў, Патрыярх склікаў Першую Праваслаўную Канфэрэнцыю, якая адбылася на абтоку Радос ад 24 да 29 верасьня 1961 году. Галоўным заданьнем гае Канфэрэнцыі было: узмацаваць духовае задзіночаньне Памесных Праваслаўных Цэркваў, аднавіць супрацоўніцтва між імі й зрабіць праект парадку заплянаванай Перадсаборнай Канфэрэнцыі, гэта значыць, пачаць канкрэтныя захады ў справе скліканьня чарговага Ўсяленскага Сабору Праваслаўных Цэркваў.

Сьв. Памяці Патрыярх Атэнагорас I запачаткаваў новы разьдзел узаемаадносін паміж Усяленскаю Праваслаўнаю Царквою й Царквою Рыма-Каталіцкаю. У гэтай справе была скліканая другая Канфэрэнцыя на абтоку Радос 26-30-га верасьня 1963 году, на якой на прапанову старшыні Канфэрэнцыі Мітрапаліта Мелітона, які рэпрэзэнтаваў Патрыярха, было вырашана навязаць кантакт з Каталіцкаю Царквою ў форме „дыялёгу роўных з роўнымі".

6-га сьнежня 1963 году Патрыярх пасуліў Папе Паўлу 6-му сустрэцца на Сьвятой Зямлі. Сустрэча адбылася ў днёх 5-6-га верасьня 1964 году — першая пасьля падзелу Цэркваў на Заходнюю й Усходнюю ў 1054 годзе.

На 3-й Усеправаслаўнай Канфэрэнцыі на Радосе, якая дзеяла ад



 

1-га да 15-га лістапада 1964 году, Мітрапаліт Мелітон падрабязна паінфармаваў прадстаўнікоў аб перамовах Патрыярха й Папы ў Ерусаліме.

Да гэтых некалькіх паданых тут фактаў з дзейнасьці Патрыярха належыць дадаць яшчэ факт агульнае да Яго пашаны й любові, якую адчувалі да Яго людзі ўсіх веравызнаньняў, высака цэнячы Ягоную людзкасьць, сардэчнасьць, шчырасьць, хрысьціянскую сьціпласьць і прыступнасьць.

Паховіны Сьв. п. Патрыярха адбыліся 11-га ліпеня ў Істамбуле. У паховінах прымала ўдзел шматлікая колькасьць дэлегатаў ад Праваслаўных Цэркваў з усіх канцоў сьвету, таксама прадстаўнікі ад каталікоў і пратэстантаў. З Злучаных Штатаў Амэрыкі на паховіны меліся паехаць Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха Архіепіскап Яковос, Каталіцкі Кардынал Кук, Епіскап епіскапальнай Амэрыканскай дыяцэзіі ў Лонг Айлэньдзе, галава Праваслаўна-ангельскай Кансультацыі Ёгатан Г. Шэрман, рабін Марк Г. Таннэнбаум ды іншыя. Але турэцкі кансулят не ўдзяліў візы Архіепіскапу Яковосу на ўезд у Турэччыну. Дзеля гэтага, салідарызуючыся з Архіепіскапам Яковосам, ніхто зь іх не паехаў.

На вестку пра сьмерць Патрыярха Атэнагораса І ад імя БАПЦарквы на Чужыне на Імя Сьвяцейшага Патрыяршага Сабору ў Істамбул была выслана спачувальная тэлеграма й кандаленцыйны ліст Экзарху Усяленскага Патрыярха ў Нью-Ёрку Архіепіскапу Яковосу.

---

### СПАЧУВАЛЬНЫ ЛІСТ

Яго Эмінэнцыі — Дня 8-га ліпеня, 1972 г.
Высокадастойнаму Архіепіскапу Яковосу ў Нью Ёрку

Ад імя Рады Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чужыне, ад імя сьвятарства й вернікаў Беларускай Царквы выказваем Грэцкай Праваслаўнай Царкве нашу глыбокую спагаду з прычыны сьмерці Яго Сьвяцейшасьці Ўсяленскага Патрыярха Атэнагораса І.

Будзем маліцца, каб Усявышні паслаў душы Ягонай вечны супакой.

З братняй любоўю цалуем Вас у Хрысьце Спасе нашым.

Высокапраасьвячэнны Андрэй
Мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай
Праваслаўнай Царквы

У сваім адказе Мітрапаліту Андрэю Архіепіскап Яковос адзначае:

„Я дзякую Вам за выказаную маліцьвеную спагаду й за Вашы шчырыя малітвы за вечны супакой багаслаўленай душы нашага Духоўнага Айца і Ўсяленскага Патрыярха АТЭНАГОРАСА І, і прашу Бога, каб Дух Ягоны і ўспамін узмацнялі нас і кіравалі нас да цясьнейшага збліжэньня ды задзіночаньня ў сэрцах і мэтах нашых.

Ліпень, 1972 — ✠ **Архіепіскап Яковос**

### ПАМІНАНЬНІ

У саракавы дзень сьмерці Сьвяцейшага Патрыярха Атэнагораса І, у Саборы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе, штату Огайо, Высокапраасьвячэньнейшы Мітрапаліт Андрэй служыў Паніхіду за супакой душы нябожчыка Патрыярха. Жалобная Служба адбылася пры поўным хоры і ўдзеле вернікаў.



## НОВЫ УСЯЛЕНСКІ ПРАВАСЛАУНЫ ПАТРЫЯРХ

Пасад Усяленскага Патрыярха нядоўга заставаўся незанятым. У нядзелю 16-га ліпеня Сьвяцейшы Сынод Канстантынопальскае Патрыярхіі выбраў новага Патрыярха. Выбраны Мітрапаліт Дымітрыос, наймаладзейшы векам з усіх 15-ёх асобаў Патрыяршага Сыноду. Выбары й пастаўленьне адбылося ў царкве Сьв. Юрага ў Канстантынопалі (Істамбул). Выбарамі кіраваў Галава Патрыяршага Сыноду Мітрапаліт Мелітон Халкедонскі.

Яго Сьвяцейшасьць Патрыярх Дымітрыос І нарадзіўся ў Істамбуле ў 1914 годзе. Тэалягічную асьвету атрымаў у манастырскай сэмінарыі на востраве Галькі, зь якой выходзяць выдатныя сьвятары й тэалёгі. Першае сьвятарскае пасьвячаньне ў дыяканы прыняў у 1937 годзе, і на становішчы дыякана пачаў сваю пастырскую дзейнасьць. Потым быў вызначаны на прапаведніцкую працу ў Грэцыі. У 1942 годзе быў пасьвячаны ў йерэі й атрымаў парафію ў Грэцыі. У сьвятарскай дзейнасьці адзначаўся пабожнасьцю, дбаласьцю пра Царкву й пра ўцьверджаньне праваслаўнае веры.

Хіратонія на Епіскапа адбылася ў 1964 годзе, а 15-га лютага 1972 году Патрыярх Атэнагорас І узьвёў Епіскапа Дымітрыоса ў сан Архіепіскапа для Мітраполіі Імбраса й Тэнэдоса, астравоў Эгейскага мора.

Сяньняшні Ўсяленскі Патрыярх Дымітрыос І валодае францускай, грэцкай і турэцкай мовамі.

Будзем мець надзею, што як і Ягоны папярэднік Атэнагорас І, Патрыярх Дымітрыос І будзе мець поўнае зразуменьне долі й развою ўсіх Праваслаўных Цэркваў, асабліва-ж тых, якія ў сучаснасьці знаходзяцца ў цяжкіх умовах пад бязбожніцкай акупацыяй, а ў тым ліку й нашай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы й нашага шматпакутнага Беларускага Народу.

---

9-га ліпеня, сёлета ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, штату Нью Джэрсі, Пратаерэй Васіль Кендыш адслужыў паніхіду па памершым Усяленскім Патрыярху Атэнагорасу І. Усе прысутныя шчыра маліліся за супакой душы адыйшоўшага на вечны супачынак Патрыярха. Айцец Васіль прамовіў пра жыцьцё й дзейнасьць Патрыярха й пра адносіны Беларускае Праваслаўнае Царквы да Патрыяршага Пасаду.

---

У Нью Ёрку, у Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага, маленьне за супакой душы памершага Ўсяленскага Патрыярха Атэнагораса І адбылося 16-га ліпеня. Службу Божую правіў айцец Карп. Па Літургіі была адслужана паніхіда.

У іншых парафіях таксама адбываліся маленьні за супакой душы Першагерарха Сьвятой Усяленскай Праваслаўнай Царквы.

---

Праз Епархіяльную Ўправу Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы перасланa, замест кветак на магілу сьв. пам. а. Віктара Войтанкі, на куплю парафіяльнага дому для Парафіі Сьвятога Духа ў Дэтройце: Епархіяльная Ўправа 25 дал., Васіль Семянчук 22 дал. і сям'я Яськевічаў 10 дал.

**Прат. Васіль Кендыш**
Скарбнік

## З МІНУЛАГА Й СУЧАСНАГА

### ЯБЛЫЧЫНСКІ МАНАСТЫР СЬВ АНУФРЫЯ

Дакладна няведама, калі быў заснаваны Яблычынскі манастыр. Але ведама, што йснаваў ужо ў 1250 годзе. Легендарныя пераказы пра ягонае заснаваньне падаюць сваю цудоўную гісторыю. Калі Кіеў быў зруйнаваны татарамі ў 1240 годзе, шматлікае ўкраінскае насельніцтва, шукаючы ратунку, масава ўцякала на захад, а пераважна ў Берасьцейшчыну, якая знаходзілася на водным шляху ракі Бугу, што ў тым часе, за адсутнасьцю іншых дарог, быў адзіным камунікацыйным шляхом. Гэтым водным шляхом у ваколіцы Драгічына, які знайходзіцца ў адлегласьці 45 км. ад Берасьця, прыплылі тры манахі. І, як пераказвае лягенда, затрымаўшыся тут, пусьцілі на ваду абраз сьв. Ануфрыя, каб паказаў ім далейшы шлях, і самі плылі за ім. Абраз затрымаўся пры левым беразе ракі Бугу, і манахі тут спыніліся. Вышаўшы на бераг ракі, пабудавалі тут прымітыўны домік і маленькую царкоўку. У хуткім часе сабралася тут больш людзей, якія таксама шукалі прытулку й гуртаваліся каля гэтага рэлігійнага асяродку. Гэткім чынам паўстаў тут манастыр.

Мясцовыя аўтахтоны — Яцьвягі — тады былі яшчэ паўдзікім народам, хаваліся ў лесе й ня верылі новым пасяленцам.

Каб падпарадкаваць манастыр сваім уплывам, пазьней пачалі сюды высылацца збройныя аддзелы князя Данілы Галіцкага й Вялікалітоўскага князя Гедыміна, які заснаваў паблізу горад Беласток і заўзята абараняў яго ад нападаў немцаў. Праз некалькі дзесяткаў гадоў праводзілася тут змаганьне за гэтую мясцовасьць, якая называлася ўжо Падляшшам, з тагачаснаю сваёю сталіцаю Бельскам, аж пакуль не зарганізавалася тут Берасьцейска-Троцкае Княства, якое належала да Вялікага Княства Літоўскага.

У 1257 годзе Яблычынскі манастыр наведаў Берасьцейскі ваявода К. Богуш і прызначыў манастыру значную дапамогу на будову лепшых будынкаў і на большую царкву, каб манастыр мог прыняць больш людзей і каб была зьвернена большая ўвага на культурна-асьветную дзейнасьць. А жонка ваяводы Ганна ўпрасіла мужа, каб прыдзяліў да манастыра больш зямлі, на якой быў пасаджаны сад, ад чаго магчыма й паўстаў назоў „ЯБЛЫЧЫНА". Троцкі кашталян Аляксандар Праўскі й ягоная жонка Хвядора, таксама шчодра абдарылі манастыр.

Калі-ж у часе нападу крыжакоў манастыр быў спалены, усе акалічныя магнаты прыйшлі з дапамогаю, і манастыр быў адбудаваны нанова, ужо ня з дрыўлянымі будынкамі, а з мураванымі.

Пасьля ўтварэньня асобнага Падляскага ваяводзтва ў 1525 годзе, яно сталася сядзібаю гэткіх магнатаў як: Хадкевічы, Сапегі, Солтаны, зь якіх адзін навет быў намесьнікам Бельскага Княства. Слава аб манастыры й дзейнасьці беларускіх магнатаў у Бельшчыне разышлася па ўсім Падляшшы, асабліва ў часе, калі ваяводаю Падляска-Бельскім быў Рафал Ляшчынскі.

У часе пашырэньня рэлігійнае вуніі Яблычынскі манастыр захаваў сваю самастойнасьць, а каб забясьпечыць сваю апрычонасьць надалей, далучыўся да Кіеўскай Мітраполіі.

З пазьнейшых гістарычных дадзеных ведама, што ў 19-ым стагодзьдзі манастыр належаў да Менскае Архідыяцэзіі; ад 1922 году, калі Беларусь была падзелена Рыскім трактатам, манастыр апынуўся ў частцы акупаванай Палякамі й належаў да Варшаўскае Мітраполіі.

У 19-м ст. манастыр упрыгожыўся новымі будынкамі. Была пабудавана новая саборная царква ў стылі Базылікі, з калёнамі й вялікім купалам ды званіцаю. На беразе Бугу была адноўлена першая дрыўляная царкоўка з 1250 году ды пабудавана некалькі будынкаў для паломнікаў.

Парафіяльнае сьвята ў манастыры адбываецца штогоду 25-га чэрвеня. У гэтым часе зьбіраюцца сюды паломнікі ня толькі з усяго Падляшша, але й з Берасьцейшчыны ды Горадзеншчыны. На ўрачыстасьць кажны год прыяжджае Мітрапаліт з Варшавы.

У сучаснасьці манастыр гэты належыць да юрысдыкцыі Праваслаўнае Царквы ў Польшчы; на месцы тут будзе зазначыць, што гэта адзін з манастыроў, дзе захавалася чысьціня Праваслаўнае веры.

### МАЛАВЕДАМАЕ Ў ГІСТОРЫІ ЖЫРОВІЦАЎ

Як рэлігійная, гэтак і сьвецкая беларуская гісторыя чакае сваіх дасьледнікаў. Вышукваючы гістарычны матар'ял, даводзіцца карыстацца неаб'ектыўнымі працамі чужых і часта няпрыхільных для Беларусаў аўтараў.

У працы П. Жуковіча, апублікаванай у 1901 годзе, пададзена частка фактаў з гісторыі Жыровіцкага манастыра, як і пра самыя Жыровіцы, якімі хочам падзяліцца з нашымі чытачамі. У матарыяле пра Жыровіцы пададзены і ўсе ўласьнікі Жыровіцаў з радаводу Солтанаў. Гэтак, першым уласьнікам быў Аляксандар Солтан, Маршалак Віленскі, які памёр у 1494 годзе. Сын ягоны, таксама Аляксандар Солтан, меў яшчэ прыпіску да прозьвішча — дэ Почэпаў. Іван Аляксандар Солтан, сын Аляксандра дэ Пачэпава, памёр у 1618 годзе; і брат яго Давыд Аляксандравіч Солтан — памёр ў 1618 годзе. Апошнім з роду быў Даніла, сын Давыда.

Яшчэ за часоў Івана Солтана паўстаў гаспадарчы крызіс у Жыровіцах. Каб яго пазбыцца, у 1603 годзе Іван аддаў усю гаспадарку ў арэнду жыду Іцку Міхалевічу за 12.000 коп літоўскіх грошаў, а пры сабе затрымаў толькі царкву ў манастыры, сад і агароды. Гэта й было першым няшчасьцем у Жыровіцах у сям'і Солтанаў. Выкрыўшы шахрайства жыда, Іван Солтан забіў яго. У 1605 годзе адбыўся ў Слоніме суд, згодна пастановы якога Солтан змушаны быў плаціць сям'і Іцака 13.537 коп літоўскіх грошаў; і калі Солтан ня мог гэткае сумы заплаціць, змушаны быў прадаць частку маемасьці, каб заплаціць належнае. З дапамогаю ў гэтай справе згаласіўся ягоны сусед Іван Мялешка з мясцовасьці Дзевятковічы. Мялешка быў каштэлянам і сэнатарам Берасьцейскім і прыхільнікам Берасьцейскае вуніі. Даў ён грошы Солтану, як задатак за манастырскую зямлю, якая была каля Жыровіцаў і ў самых Жыровіцах. А калі Солтан ня меў чым сплаціць належнасьці, Мялешка зажадаў, каб пераказаў яму ўсе Новыя Жыровіцы з царквою й манастыром. 12 студзеня 1609 году купча была афармлена.

Гэткім чынам для Солтана засталіся толькі Старыя Жыровіцы й землі, якія знаходзіліся далёка ад манастыра.

Апрача гэтага, Мялешка незабавам падкупіў кіраўніка царквы, які дазволіў пасяліцца каля царквы вуніятам, і Солтан ўжо ня меў ніякага права гэтае пастановы зьмяніць.

Праз нейкі час тут яшчэ здарыліся непрадбачаныя падзеі, якія спрычыніліся да канчальнага банкруцтва маемасьці Солтанаў у Жыровіцах, і яна ў 1618 годзе перайшла да вуніятаў. Аўдавелы Мялешка пастрыгся ў манахі ды папрасіў Мітрапаліта Русецкага, каб прыслаў у манастыр Базыльянаў.

У гэтым самым часе малады Даніла Солтан скончыў быў навуку ў Вільні ды вярнуўся на гаспадарку свайго бацькі Давыда да Старых Жыровіцаў. Прыехаўшы, быў вельмі зьдзіўлены тымі падзеямі, якія адбыліся ў Жыровіцах. Аднаго разу, у часе жніва ў Старых і Новых Жыровіцах, Даніла сеў на каня, каб аглядзець сваю маемасьць. Заўважыўшы, што вуніяцкі манах, возячы снапы з поля, пераехаў граніцу паміж Старымі й Новымі Жыровіцамі з мэтаю скараціць сабе дарогу, Даніла пад'ехаў да яго на кані й пачаў біць манаха кіем, а калі кій зламаўся, ужыў у бойцы шаблю. Ад сьмерці выратаваў манаха толькі манастырскі аканом, які ўпрасіў Данілу. Справа пабою ізноў апынулася ў судзе. Каб залагодзіць судовую справу, Даніла быццам-бы прырок пасьля свае сьмерці пераказаць вуніятам і Старыя Жыровіцы ды падпісаў на гэта належныя дакументы. Сталася гэта ў 1620 годзе, пасьля чаго ўся маемасьць Старых і Новых Жыровіцаў сталася ўласнасьцю вуніятаў.

Жыцьцё сваё Даніла Солтан закончыў у 1634 годзе ў Скалдычах, маленькім двары каля Старых Жыровіцаў. Пахаваны быў у кельлі царквы Дабравешчаньня ў манастырскім садзе. Ягонага 15-ці-летняга сына завязьлі да Мітрапаліта Рафаіла Карсака на ўзгадаваньне, як непаўналетняга. Карсакі былі вялікімі палянізатарамі, якія ад пачатку былі прыхільнікамі вуніі, а Рафаіл навет быў Архімандрытам Лаўрышаўскага манастыра. Пазьней усе яны лічыліся Палякамі.

Як ведама, род Солтанаў не закончыўся ў Жыровіцах, але паказаныя вышэй падзеі былі пачаткам руіны рэлігійнага праваслаўнага асяродку ў Жыровіцах за часоў Рэчыпаспалітае.

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА МЕНСК

У Беларускім стольным горадзе Менску ёсьць прыгожае ўзвышша, якое з даўных часоў мянчане назвалі „Высокім местам". На поўдзень ад яго разьмешчаны ўвесь горад на правым беразе Сьвіслачы, якая пры ўтоку ракі Нямігі ўпіраецца ў гэтае ўзвышша, адтуль паварочваецца на ўсход, амінае ўзвышша ды йзноў цячэ на поўдзень да ракі Бярэзіны й Дняпра. Старажытны Менск з княжым замкам напачатку будаваўся над ракою Нямігаю, на захад ад Высокага места, а толькі ў 16-ым сталецьці распачалася забудова самога Высокага места.

У тыя далёкія часы нашая сталіца Менск мела толькі дрыўляныя будынкі, паміж якімі выдатна красаваліся мураваныя цэрквы й касьцёлы. З часам насельніцтва ў Менску нагэтулькі павялічылася, што цэрквы не маглі ўжо зьмясьціць усіх вернікаў, і на Высокім месьце былі пабудаваны новыя сьвятыні — Сьвята-Духаў манастыр, прыгожы касьцёл і ратуша. Калі-ж у 1793 годзе Менск акупавалі Расейцы, супроць гэтага касьцёла ў 1850 годзе быў пабудаваны Петрапаўлаўскі Сабор, які потым быў пераменаваны на Катэдру, дзе зьмяшчалася Менска-Тураўская Епархія, якая абыймала бальшыню тэрыторыі Беларусі.

Захоп бальшавікамі ўлады на Беларусі прынёс катастрофу ў рэлігійным і грамадзкім жыцьці.







Аўтару гэтых радкоў давялося першы раз быць у Менску ў 1943 годзе у часе гэтак званых „дажынкаў". Начлег меў ён у старых бацькоў аднаго сьведамага Беларуса. Яны й расказалі пра некаторыя падзеі, якія здарыліся яшчэ перад 1938-м годам. Гэтыя старэнькія людзі памяталі яшчэ нашага сьвяч.-мучаніка Мітрапаліта Мелхісэдэка, які ў тым часе так моцна бараніў Праваслаўную веру й Беларусаў перад усімі гэтак званымі „жывацаркоўнікамі" й атэістымі; яны ў тым часе зьняважылі былі Цудадзейны Абраз Менскае Божае Маці, зь якога ў 1921-ым годзе якісь туз НКВД асабіста зьдзёр рызу й шматкаштоўную карону з брыльлянтамі. Гэты Сьвяты Абраз тады знаходзіўся ў Менскім Катэдральным Саборы й быў вельмі шанаваны мянчанамі, якія ў неспакойных гадох кажны дзень прад ім маліліся.



*Катэдральны Петрапаўлаўскі Сабор у Менску. Стан з 1903 году.*

Пасьля гэтага ганебнага ўчынку Мітрапаліт Мелхісэдэк устанавіў на працягу ўсяго месяца пост і вызначыў старожу ў Саборы, каб праз гэта абараніць яго ад далейшага злачынства. Усю ноч перад цудадзейным Абразом гарэлі сьвечкі й лямпадкі, а народ шчыра маліўся да Прасьвятое Багародзіцы, якая ўжо бяз рызы сьвяціла Нябесным Сьвятлом і Божаю Ласкаю. Такія нялэўныя й трывожныя часы прадаўжаліся.

У 1922 годзе Мітрапаліт Мелхісэдэк склікаў Агульны Сабор сьвятарства, каб абгаварыць справы Беларускае Праваслаўнае Царквы, якая знаходзілася ў межах БССР. Сабор адбываўся ў тым самым Катэдральным Саборы. Гэта яшчэ больш разьюшыла бальшавікоў; пачаліся арышты і ўціск ды пасыпаліся даносы ў Маскву. Незадаўга бальшавікамі быў загублены Патрыярх Маскоўскі Ціхан, а на яго месца быў пастаўлены Мітрапаліт Сяргей, які безапэляцыйна пайшоў на супрацоўніцтва з бяз-

божнаю бальшавіцкаю ўладаю ды стаў выконваць загады савецкае ўлады на прыгнечаньне сьвятарства.

У сьнежні 1924 году быў выкліканы ў Маскву й Мітрапаліт Мелхісэдэк, дзе ад яго дамагаліся, каб асабіста падпісаў дэклярацыю згоды з савецкаю ўладаю, чаго Мітрапаліт не зрабіў, а таму быў высланы ў Сібір. Менскі Катэдральны Сабор быў адданы прыхільнікам савецкае ўлады „жывацаркоўнікам", а праваслаўнае сьвятарства арыштоўвалі й вывозілі.

Яшчэ перад арыштамі ў 1927 годзе Праваслаўная Герархія на Беларусі выдала пасланьне да народу, у якім прыпаміналася людзям праўдзівая вера ў Бога й неабходнасьць абароны Праваслаўнае веры.

У 1936 годзе Катэдральны Сабор быў ужо адабраны й ад „жывацаркоўнікаў" і запячатаны, каб народ ня мог у ім маліцца да Цудадзейнага Абраза Божае Маці. У канцы 1936 году нейкі злачынец ў падвал Сабору кінуў разрыўную бомбу, праз што было ўчынена шмат шкоды; і бальшавікі загадалі яго зусім узарваць. Выконваючы загад, у 1938 годзе ўжо зусім адкрыта бальшавікі падлажылі пад Сабор вялікую колькасьць выбуховага матар'ялу, і Сабор быў зруйнаваны.

Яшчэ ў 1943 годзе я меў нагоду хадзіць і аглядаць тое месца, дзе раней быў Сабор: у падвале руінаў немцы зрабілі сабе сховішча, а з левага боку стаяў яшчэ былы Губэрнатарскі дом, у якім месьціўся тады нямецкі гебітскамісарыят.

**А. Асіповіч**

### УЗНАГАРОДА НАСТАЯЦЕЛЯ ПАРАФІІ

Айцец Карп Стар да Сабору БАПЦарквы — 27-29 мая сёлета — лічыўся заступнікам настаяцеля Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Бяручы на ўвагу ягоную рупнасьць і дбаласьць пра царкву й добрую абслугу парафіі, а. Карп быў узьведзены на Саборы ў настаяцеля Парафіі й ўзнагароджаны скуф'ёю.

---

### КАНЦЭРТ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

У нядзелю 28 травеня а гадзіне 7-ай увечары адбыўся канцэрт пад назовам „Фэст Талентаў Моладзі", арганізаваны Галоўнай Управай Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. У праграме прыняла ўдзел моладзь штатаў Нью Ёрку й Нью Джэрсі, як таксама моладзь з Канады. Моладзь выказала сваё майстэрства ў выкананьні беларускіх нацыянальных танцаў: супольная група з Нью Ёрку й Нью Брансвіку, пад кіраўніцтвам Аллы Рамано й гурток з Канады пад кіраўніцтвам Старшыні Евы Пашкевічанкі. Апошнім была прызнаная ўзнагарода. Пацешылі гледачоў й выканаўцы індывідуальных мастацкіх пастановак.

Канцэрт ушанавалі сваёй прысутнасьцю: Уладыка Мітрапаліт Андрэй, Уладыка Мікалай, сьвятарства Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, якое прымала ўдзел на Саборы, дэлегаты Сабору й шмат Беларусаў.

Шчырыя й гучныя воплескі прысутных былі доказам захапленьня й прызнаньня для аматараў-мастакоў. Будзем цешыцца, калі нашая моладзь і далей будзе праціягваць сваю працу, ды час ад часу пакажа нам перахоўванае прыгаство беларускае нацыянальнае культуры.

**Гл.**



# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА

### ХРАМАВОЕ СЬВЯТА Ў ПАРАФІІ СЬВ. АПОСТАЛАЎ ПЯТРА Й ПАЎЛА Ў АЎСТРАЛІІ

У нядзелю 16-га ліпеня сёлета Беларусы ў Адэляйдзе ўрачыста сьвяткавалі сваё Храмавое Сьвята. Былі запрошаныя сьвятары зь іншых парафіяў. Урачыстую Божую Службу правіў Пратаерэй Александар Кулакоўскі ў суслужэньні з кіраўніком Парафіі айцом Васілем Чычэлісам, а. Александрам Зелінскім з Украінскай АПЦарквы, і а. Драгалюбам Петрковічам, з Парафіі Сьв. Савы Сэрбскай АПЦарквы. Быў прысутны Мітрафорны Пратаерэй Міхаіл Шчурко, але па слабасьці здароўя ўдзелу ў Службе Божай ня браў.

Вельмі прыгожа й мілагучна сьпяваў Беларускі царкоўны хор, пад кіраўніцтвам рэгента брата Бурноса.

Пасьля Сьвятой Літургіі а. Васіль, з удзелам усяго запрошанага сьвятарства, адслужыў Малебен Сьв. Апосталам. Абыйшоўшы з крыжным ходам навокал Царквы, айцец Васіль прачытаў малітву да Сьв. Апосталаў. Пасьля Водпусту адсьпявалі з хорам — Мітрапаліту нашаму Уладыку Андрэю, Уладыку нашаму Епіскапу Мікалаю, усяму суслужачаму Сьвятарству, харыстым, будаўніком нашае Царквы, ахвярадаўцам і ўсім вернікам — Многія леты. Служба Божая закончылася адсьпяваньнем гымну „Магутны Божа".

Пасьля гэтага кіраўнік Парафіі а. Васіль запрасіў усіх прысутных на супольны абед-бяседу. Заля хутка запоўнілася. Па супольным адсьпяваньні малітвы — Войча Наш — Пратаерэй а. Александар словасьвяціў ежу, і пачаўся супольны абед.

У часе абеду айцец Александар Зелінскі сказаў прамову ў чэсьць нашага Храмавога Сьвята й нашага Беларускага народу, віншаваў усіх прысутных і пажадаў нашай Парафіі найлепшых посьпехаў у будучыні.

Айцец Драгалюб ад Сэрбскае Царквы таксама прамовіў у чэсьць нашага Сьвята й пажадаў нашым Беларусам усяго найлепшага ў царкоўным жыцьці.

Старшыня Парафіяльнай Рады Янка Ралсон падзякаваў усім сьвятаром за ўдзел у нашым урачыстым сьвяткаваньні Храмавога Сьвята. Таксама шчыра падзякаваў усім шчодрым ахвярадаўцам і ўсім арганізатарам такога багатага абеду-бяседы.

Айцец Васіль таксама падзякаваў усім сьвятаром за прыняцьце ўдзелу ў суслужэньні на ўрачыстым сьвяткаваньні й пажадаў, каб гэтая сувязь між сьвятарствам усталілася назаўсёды. Зьвярнуўшыся да парафіян, дзякаваў усім, хто прысутнічаў на Службе Божай, і за арганізацыю бяседы, і напамянуў усім, каб не забывалі свае роднае Царквы, нашых народных звычаяў, і пажадаў усім плённай працы на Царкоўнай Беларускай Ніве, закончыўшы словамі: „Дарагія суродзічы! Няхай гэты дзень Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла адзначаецца кажнага году яшчэ з большым згуртаваньнем на карысьць нашага народу".

Пасьля абеду на просьбу прысутных, наш хор сьпяваў шмат Беларускіх народных песень: „Люблю наш край . . .", „Ой, ня кукуй зязюленька . . .", „І туды гара . . ." ды іншыя беларускія песьні.

Гэтак цяпер у нас, у далёкай ад Бацькаўшчыны Аўстраліі, з успамогай Госпада Нашага й Збаўцы Ісуса Хрыста, вольна адбываюцца Божыя Службы й праводзіцца нацыянальна-грамадзкая дзейнасьць.

**Свой**

## ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ

Дня 14. 4. 1972-га году, Парафія Сьв. БАПЦарквы ў Мэльбурне, на запросіны Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, прыняла ўдзел у афіцыйным спатканьні-прыняцьці царкоўнага дастойніка Праасьвячэньнейшага Ўладыку Мсьціслава, Мітрапаліта УАПЦарквы. Пачэснага гасьця Мітрапаліта Мсьціслава, лічнае духавенства й вернікаў УАПЦарквы вітаў ад імя Парафіі Сьв. Антона, Яна й Еўстафа а. Александар.

Звычаем папярэдніх гадоў, пасьля Сьв. Літургіі й Паніхіды ў Фаміную нядзелю (16. 4. 72), вернікі Мэльбурнскай Парафіі на чале з а. Александрам наведалі магілкі суродзічаў, каторых Бог паклікаў у пaза-зямное жыцьцё. Беларуская група вернікаў гэтым разам была большая, чым іншых веравызнаньняў. Хор сваімі шчырымі напевамі выклікаў глыбокамаліцьвенае пачуцьцё. Наведваньне супачыўшых закончылася пры магіле сьв. памяці Акуліны Груша, на беларускім участку. Надвор'е ў гэты дзень было надзвычай лагоднае, што спрыяла супольнай бяседзе й спажыцьцю багатых страваў прыгатаваных кроўнымі ў памяць адыйшоўшых у вечнасьць.

23. 4. 1972 г. у Мэльбурнскай Парафіі БАПЦарквы адбыўся Надзвычайны Парафіяльны Сход. Мэтай Сходу былі выбары дэлегатаў ад Парафіі на Вялікі Сабор сьв. БАПЦарквы. У склад выбраных увайшлі: Антон Басарановіч і Дзімітра Кажура.

30. 4. 1972 году Парафія Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Еўстафа сьв. БАПЦарквы ў Мэльбурне адсьвяткавала сваё Храмавое сьвята. Пасьля Сьв. Літургіі быў адслужаны Малебен. А. Александар сказаў прынагодную глыбокага зьместу казань, прыпамінаючы пра жыцьцё, веру й мучаніцкую сьмерць Патронаў гэтага Храму.

21. 5. 1972 г. была адслужана Паніхіда за супакой душы Йерэя Віктара — адраджэнца БАПЦарквы на чужыне.

25. 6. 1972 г. адбыўся чарговы перавыбарчы Парафіяльны Сход. На Сходзе было абгаворана й прынята рад пастановаў, карысных для пашырэньня дзейнасьці Парафіі й БАПЦарквы наагул. Сход аднагалосна паклікаў старую Парафіяльную Раду займаць свае становішчы на наступныя два гады.

Дня 6. 7. 1972 году неспадзявана, ад атаку сэрца, упакоіўся Грыгор Сэсэтка. Грыгор нарадзіўся ў Нямеччыне. Адукацыю атрымаў у Аўстраліі — закончыў Мэльбурнскі Унівэрсытэт — Электра-інжынерны аддзел. Падчас адпяваньня, 12. 7. 72 г. царква была перапоўнена кроўнымі, сярод іх сястра зь сям'ёй з Чыкага ЗША, прыяцелямі й знаёмымі. Пакойны пакінуў старэчых бацькоў: Фаму й Аляксандру й тры замужныя сястры. Памёр у веку 28-мі год. З уваго на ягоную маладосьць пры вынасе з царквы й пры ўносе на магільнік стаяла ганаровая варта, і з абодвых бакоў праходу кроўныя й прыяцелі трымалі 28 вянкоў. Цела супачыўшага пахаванае на беларускім магільніку. Няхай супачыламу будзе лёгкай аўстралійская зямля, а душа ягоная няхай знойдзе прыпынак, дзе ўсе праведнікі прабываюць. Чын пахарону пакaнаў пратаерей а. Александар, настаяцель БАПЦарквы ў Мэльбурне.

30. 7. 1972 г. пасьля Сьв. Літургіі была адслужана Паніхіда за супакой душы Сьвяцейшага Усяленскага Канстантынопальскага Патрыярха Атэнагораса І.





## У БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ ГРЭЦКАЙ ЮРЫСДЫКЦЫІ

У нядзелю 30-га ліпеня сёлета адбылося высьвячаньне новазбудаванае Царквы імя Сьвятой Афрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, штату Нью Джэрсі. Афіцыйны назоў: „Беларуская Праваслаўная Царква Сьвятой Еўфрасініі Полацкай". На досыць вялікім пляцы, прыдбаным ад места Саўт Рывэру, высьвячаны таксама будынак Грамадзкага Цэнтру.

Пабудаваная на самым вышэйшым месцы пляцу Царква асабліва выразна выдзяляецца й добра прэзэнтуецца. Досыць капітальныя збудаваньні выкананы параўнальна за кароткі час коштам і сілаю Парафіі ў Саўт Рывэры пад узглаўленьнем Протапрасьвіцера айца Мікалая Лапіцкага.

Чын высьвячаньня выканаў Епіскап Філафей — заступнік Архіепіскапа Яковоса, Экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі.

## ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрку, сёлета сьвяткавала дзень свайго Патрона 21-га мая.

Урачыстую Божую Службу адправіў Уладыка Мікалай, Епіскап Таронцкі ў суслужэньні айца Карпа Стара, заступніка настаяцеля Парафіі.

Уладыка Мікалай у казані адзначыў вялікую заслугу Сьв. Кірылы Тураўскага для народу беларускага й для ўсяе праваслаўнае царквы. За сваю выдатную прапаведніцкую дзейнасьць ён быў названы другім Златавусным, пасьля Яна Златавуснага, Епіскапа Канстантынаградзкага.

На банкеце ў царкоўнай залі пра дзейнасьць Сьв. Кірылы гаварыў Старшыня Парафіяльнае Рады інж. Мікалай Гарошка, як пра выдатнага царкоўнага дзеяча, прасьветніка, аўтара шматлікіх малітваў і казаньняў і шырокага кругазору пісьменьніка й філёзафа. Творы Сьв. Кірылы Тураўскага былі выдадзены ў 1965 годзе ў Нямеччыне.

Банкет быў спалучаны з днем Сьвята Маці й з выстаўкай маладой нашай мастачкі Ірэны Рагалевіч. Госьці мелі прыемнасьць паслухаць выступленьні вучняў нядзельнай школкі ў пашану маці й аглядаць мастацкія абразы, а ўпадабаўшы й купіць. Выступленьні вучняў падрыхтавала настаўніца Натальля Орса.

## ІКОНА СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

Стараньнем айца Карпа, настаяцеля Парафіі, прыдбана ікона Патрона Парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага. Малявана ікона на дошцы, з агульнага здымку ліку сьвятых, сярод якіх і Сьв. Кірыла Тураўскі. Абраз выкананы дбала й добра. Трэба ўважаць, што гэтая ікона найбольш зьбліжаная да абразоў пашыраных у праваслаўных цэрквах.

## ПАРАФІЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Кажная парафія, выбраўшы сабе патрона, у часе кажнае Багаслужбы ўзносіць да Яго свае шчырыя малітвы. Але больш урачыста адзначаецца дзень гэтага сьвятога. Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе кажны год сьвяткуе гэты дзень у палове месяца травеня. На сьвяткаваньне звычайна запрашаецца для большае ўрачыстасьці й больш

сьвятарства. У гэтым годзе быў запрошаны сьвятар Хведар Васілюк з Дэтройту, які толькі нядаўна прыехаў з Польшчы. Архірэйскую Багаслужбу ачоліў Уладыка Андрэй у асысьце а. Хведара й дыякана Міхася. Упрыгожваў Багаслужбу прыгожым малітвеным сьпевам парафіяльны хор пад кіравецтвам брата Кіслага. На банкеце лік сьвятарства павялічыўся прысутнасьцю ўкраінскага сьвятара а. Хведара з суседняе парафіі, які палкімі словамі прывітаў прысутных. Шчодры абед прыгатавалі сябры Парафіяльнае Рады. Шмат ветлых прывітаньняў пачулі прысутныя ад прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў.

* * *

Дня 4-га чырвеня ладная колькасьць парафіянаў з Кліўленду прысутнічала на Парафіяльным Сьвяце ў Дэтройце. На запрашэньне Парафіяльнае Рады Багаслужбу ачоліў Уладыка Андрэй у асысьце прыбылага з Бэльгіі Протапрасьвіцера Аўгена, а. Яна з Англіі й айца Хведара Васілюка. Пасьля Багаслужбы адбыўся хрост дзіцяці а. Хведара й матушкі Зофіі. Банкет адбыўся ў царкоўнай залі.

* * *

Пасьля Сьв. Літургіі 11-га чырвеня Уладыка Андрэй, у асысьце дыякана Міхася з удзелам хору, адправіў паніхіду ў 2-ю гадавіну сьмерці сьв. пам. Уладыкі Васіля, і 40-вы дзень сьмерці сьв. пам. айца Віктара Войтанкі.

* * *

У гэтым годзе, як і ў папярэднія, 4-га ліпеня — Дзень Абвешчаньня Незалежнасьці Амэрыкі, — у царкве Жыровіцкае Божае Маці, быў адпраўлены Малебен з многалецьцем для Прэзыдэнта, Ураду і ўсіх жыхароў Амэрыкі.



## ПАРАФІЯ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ

У сувязі з прыпадаючымі гадавінамі сьмерці сьв. пам. Архіепіскапа Васіля, Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка й Мітр. Прат. Сьцяпана Войтанкі, у нядзелю 25 травеня сёлета у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, штату Нью Джэрсі, Прат. Васіль Кендыш адслужыў паніхіду. Айцец Васіль памінаў разам і адышоўшых Архіепіскапа Сяргея, Мітр. Прат. Хведара Данілюка, айцоў: Мікалая Макарэвіча, Віктара Войтанку й Еўфіма Якіменку. Усе прысутныя ў царкве шчыра маліліся за супакой адышоўшых герархаў, сьвячэннаслужыцеляў і Прэзыдэнта, просячы Бога аб прыняцьці душаў іхных у Уладарстве нябесным.

У сваім слове а. Васіль падкрэсьліў вялікую гістарычную ролю аднаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й ахвярную працу адышоўшых.

Пасьля паніхіды адбыўся ў царкоўнай залі традыцыйна-памінальны абед, дзе прысутныя парафіяне дзяліліся сваімі ўспамінамі з жыцьця памінаных.

У нядзелю 6-га жніўня сёлета, пасьля Сьв. Літургіі, адбыўся парафіяльны пікнік, сарганізаваны Парафіяльнаю Радаю. Дзякуючы добраму надвор'ю, парафіяне й госьці разьмясьціліся за сталамі у цяні дрэваў за царвою і ў добрым настроі спажывалі добры пачастунак, падрыхтаваны ахвярнымі парафіянкамі. У братэрскай і сардэчнай атмасфэры праходзіў час, а парафіяльная каса папоўнілася пэўным прыбыткам. Парафіяльная Рада складаэ шчырую падзяку ўсім тым, хто ахвяраваў сваю працу пры наладжаньні гэтае імпрэзы й усім тым, каторыя падтрымалі яе сваёй ласкавай прысутнасьцю.